

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

**Address:** P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

**BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.** Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**№ 481 Люты 2003 г.** Год выданьня 53


# БЕЛАРУСЫ Ў ГІШПАНІІ

## Беларуска-Ібэрыйскае Згуртаваньне

Адными з найлепшых успамінаў 2002-га году былі мае адведзіны беларускае грамады ў Гішпаніі. Усім ведама, што цяпер беларусаў у Гішпаніі шмат, але вось толькі да лістападу мінулага году мелі мы кантакты толькі з двума зь іх. Вырашыла зьвярнуцца да іх. На жаль, адзін зь іх, найстарэйшы, жыве 800 кілямэтраў ад гішпанскае сталіцы, і пасьля вельмі прыемнай тэлефоннай размовы зь ім вырашылі спаткацца ў наступным годзе. Другі, Андрэй Рубцоў, вельмі быў задаволены, даведаўшыся, што мы зможам пабачыцца.

Мае ўкраінскія сябры яшчэ з тых часоў, калі мы з мужам жылі ў Гішпаніі, паінфармавалі, што яны цяпер маюць свой уніяцкі храм і цудоўнага маладога сьвятара, і што айцец Ігар дапаможа мне спаткацца зь беларусамі, якія да яго прыходзяць на Багаслужбы. Так яно і сталася. Сьвятар абвесьціў тры разы ў храме, што Старшыня Рады БНР адведае Мадрыд і хацела-б спаткацца з суродзічамі. З другога боку мае ўкраінскія сябры ведалі, што таксама ў Мадрыдзе праводзяцца праваслаўныя Багаслужбы, куды таксама ходзяць беларусы. Наступным крокам было спаткацца зь імі. Але найбольш зрабіў Андрэй, які, спаткаўшы мяне на лётнішчы, сказаў, што на спатканьне прыедуць землякі з Малагі й з Каталоніі.

Спатканьне адбылося ў залі храму, дзе адбываюцца ўкраінскія Багаслужбы, недалёка ад унівэрсытэцкага гарадку на вуліцы Прынцэса. Сабралася больш за дваццаць асобаў. Спакталіся як старыя знаёмыя. Я расказала пра жыцьцё беларусаў у іншых краінах, пра часы, калі мы адныя жылі ў Мадрыдзе і вялі беларускія радыёперадачы; пра мой побыт пару дзён раней у Лёндане, куды езьдзіла на прыняцьце, зарганізаванае брытанскімі парлямэнтарыямі прыяцелямі Беларусі.

Удзельнікі сустрэчы таксама распавялі пра сваё жыцьцё перад і пасьля прыезду ў Гішпанію і спантанічна вырашылі, што існуе патрэба ў існаваньні згуртаваньня беларусаў у Гішпаніі. Назвалі яго аднак Беларуска-Ібэрыйскім Згуртаваньнем (Asociacion Bieloruso-Iberica), каб магчы ўлучыцць у яго і сяброў з Партугаліі й тых, хто пражываюць у іншых некастыльскіх правінцыях.

Стварылі Арганізацыйны камітэт пад старшынствам Андрэя, якому даручылі прыгатаваць да наступнай сустрэчы статут арганізацыі. Прынялі нават трох ганаровых сяброў. Адсьвяткавалі дзен нарадзінаў адное з прысутных сябровак і падаравалі ёй цуцоўны букет чырвоных ружаў. Ужо ёсьць электронны адрас Беларуска-Ібэрыйскага Згуртаваньня (zhurtavannie@yahoo.es). Вельмі пажадана, каб беларускія выдавецтвы пачалі высылаць ім свае выданьні, а арганізацыі ў іншых краінах, дзе пражываюць нашыя суродзічы, іх прывіталі. Я ім паабяцала, што да іх завітаю на сьвяткаваньне 85-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

***Івонка СУРВІЛЛА***
***Старшыня Рады БНР***

# НЯ ЙДЗІЦЕ - ПАДМАНУЦЬ!

**Агітацыя непрыяцеляў Беларусі за падстаўныя выбары ў мясцовыя Саветы, за ашуканцкі рэфэрэндум - гэта новае выпрабаваньне для беларуса, тэст на вопыт, на здольнасьць засвойваць гістарычныя досьведы й вучыцца на ўласных памылках.**

Тое, што 2-га сакавіка на так званыя "выбары" ў мясцовыя Саветы прамаскоўскі рэжым рыхтуе таксама чарговы ашуканцкі "рэфэрэндум", ні ў каго, хто сочыць за выказваньнямі ўлады, не выклікае сумненьня.

Людзей агітуюць на выбары, каб загнаць на рэфэрэндум. На "рэфэрэндуме" Масква рукамі беларусаў хоча дамагчыся паправукі ў Канстытуцыю аб увядзеньні ў Беларусі расейскіх грошай і аб пазбаўленьні беларусаў права эмісіі (вырабу) уласных грошай. Лукашэнка, магчыма, захоча яшчэ прыдбаць сабе на "рэфэрэндуме" трэці тэрмін "прэзыдэнцтва".

Пазбаўленьне беларусаў сваіх грошай прывядзе да пазбаўленьня ад уласнасьці, да поўнае галечы, да страты дзяржаўнай незалежнасьці, да расейскага бяспраўя.

Для ворагаў Беларусі важна, каб выбаршчыкі пайшлі на выбары, каб быў відавочны факт галасаваньня. Астатняе - справа праверанай тэхнікі. І "выбары", і "рэфэрэндум" будуць сфальсыфікаваныя. Мэханізм адладжаны.

Праз мэханізм фальсыфікацыі беларускі народ, фактычна, адлучаны ад фармаваньня ўлады. Рэжым выкарыстоўвае галасаваньне і прыход людзей на выбарчыя ўчасткі, каб потым зрабіць вынікі выбараў (ці рэфэрэндуму) такія, якія яму патрэбныя.

Так было ўвесь час пры гэтай уладзе. Не выпадкова за апошнія дзевяць гадоў міжнародная супольнасьць не прызнала ніводныя выбары і ні адзін "рэфэрэндум" ў Беларусі за сапраўдныя. І сам Лукашэнка, і ягоныя "палаты" ёсьць нелегітымныя. Іхняя ўлада - незаконная. Усё, што яны вытвараюць у заканадаўстве па ўціску беларусаў, па "інтэграцыі" з Расеяй, па здачы беларускай маёмасьці - усё будзе адразу адменена легітымнаю, нашаю, сваёю беларускаю уладаю.

Але цяпер рэальная ўлада ў Беларусі ўзурпаваная (захопленая) Лукашэнкам і іншымі прамаскоўскімі стаўленікамі. Нельга ісьці на іхныя выбары й рэфэрэндум, бо нельга даваць ім магчымасьцяў для ашуканцтва. Ёсьць мэтад, каб змагацца з падманам. Гэта байкот выбараў. Ня трэба йсьці на выбарчыя ўчасткі. Ня трэба галасаваць. Ня йдзі - падмануць.

* * *

Рэжым разгортвае агітацыю за выбары. Тут пазыцыя і дзеяньні адназначныя.

Больш подлую агітацыю ў карысьць рэжыму праводзіць ягоная прамаскоўская так званая "дэмакратычная апазыцыя". Яна заклікае людзей на выбары (чытай - на здрадніцкі рэфэрэндум), нібыта, каб "удзельнічаць у палітычным працэсе", каб "агітаваць за дэмакратыю", "набываць вопыт" і "ўплываць на ўладу".

Гэтыя "апазыцыянэры" раз за разам езьдзяць у Маскву, атрымліваюць нямецкія грошы, бадзяюцца па розных арганізаваных для іх ворагамі Беларусі "сэмінарах" ды "канфэрэнцыях" і за гэта гатовыя зрабіць усё, што скажуць ім іхныя "мэнаджэры" і даваўцы.

Па вялікаму кошту тое, чым яны займаюцца, ёсьць карупцыяй, іхняя правакацыйная роля ў гэтай справе ёсьць здрадаю народу Беларусі (які яны абзываюць, дарэчы, рознымі дрэннымі словамі). Паспрабуйце ўявіць гэтакіх "дэмакратаў" ва ўладзе. Што гэта будзе за шкурная ўлада!

Шкоднасьць іхняе правакацыйнае дзейнасьці яшчэ ў тым, што, выступаючы супраць Лукашэнкі (і, дарэчы, вельмі некантруктыўна), яны [illegible]зарыентуюць тых беларусаў, [illegible]аговых змагацца за Беларусь супраць рэжыму ўнутранай акупацыі.

Масква ўбачыла і адчула, што колькасьць беларусаў, якія падтрымліваюць ідэі Беларускага Вызвольнага Руху, павялічваецца. Людзі прачынаюцца і гатовыя змагацца з акупацыйнаю палітыкаю і з крамлёўскаю Масквою.

Каб загнаць гэтых актыўных беларусаў на ашуканцкі рэфэрэндум, "апазыцыя" і журналісцкая агентура ў так званым "незалежным" расейскамоўным друку (незалежным ад Беларусі) вылузваецца са скуры ў псэўдапатрыятычнай дэмагогіі й апазыцыйным жанглёрстве, даказваючы, што трэба браць удзел у ашуканцкіх выбарах 2-га сакавіка.

Вось, напрыклад, тыповы артыкул такога фальшывага роду. Называецца ён "Разрушенный дом". Асацыяцыя ледзь ні з Купалам ("Раскіданае гняздо"). Але дзеля чаго ён складзены? *(Гл. "Народная Воля", 2002, 27 сьнежня, Л. Грязнова. Разрушенный дом)*

У тэксце напісана шмат правільнага. І пра тое, што рэжым Лукашэнкі, і палітыка Масквы пагражаюць Беларусі "потерей всех признаков независимости", "инкорпорацией белорусской территории восточной соседней державой" і пра тое, што ўвядзеньне расейскіх грошай і страта беларускага эмісыйнага цэнтру і бюджэту будзе азначаць страту фінансавай самастойнасьці і потым "тихое поглощение страны кремлёвскими олигархами", і пра тое, што "распоряжение государственными средствами перейдет в руки российских заправил", а "белорусам придется довольствоваться крохами с барского стола", " лучшая собственность окажется у российских капиталистов", "белорусским предпринимателям придется делиться с мафией соседней страны, иначе не дадут работать", "рядовые граждане станут объектом эксплуатации российских олигархов. Социальная защита резко понизится из-за регионального бюджета", "молодые парни пойдут в российскую армию... класть свои головы в Чечне", "национально-демократических деятелей придушат с удвоенной энергией, они не нужны имперской и недемократической России" і г.д. - усё, быццам сьпісане з пазыцыі Камітэтаў Абароны й узятае з аналізу дзеячоў Беларускага Вызвольнага Руху.

Пры тым гэта піша асоба з гэбоўскай "Хартыі-97", член махрова прамаскоўскай "апазыцыйнай" партыі, агентурныя персанажы якое не вылазяць з Масквы, робяць інтэграцыйныя заявы й набіраюць маскоўскія грошы.

Загадка такога нечаканага рэалістычнага погляду раскрываецца ў канцоўцы агітацыйнага артыкула.

"Всего этого можно избежать, - піша агітатарка з "апазыцыі". - До решительного преодоления

***Заканчэньне на бач. 3***

# Ў ПАРЛЯМЭНЦЕ БРЫТАНІІ

## СТАРШЫНЯ РАДЫ БНР ПАПЯРЭДЖВАЕ БРЫТАНСКІХ ПАЛІТЫКАЎ НЕ РАЗЬЛІЧВАЦЬ НА ДАПАМОГУ РАСЕІ Ў ДАЧЫНЕНЬНІ ДА БЕЛАРУСІ

У сваім выступленьні падчас прыняцьця ў брытанскім парлямэнце, зарганізаванаым групаю дэпутатаў British Belarus all Party Parliamentary Group у супрацоўніцтве з Англа-Беларускім Таварыствам і Згуртаваньнем Беларусаў Вялікабрытаніі, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла падзякавала брытанскім дэпутатам за ўсё, што яны робяць, каб дапамагчы Беларусі стацца незалежнай эўрапейскай дэмакратыяй, аб якой мы ўсе марым. Сп-ня Сурвілла выказала шкадаваньне, што Беларусь ня мела такіх сяброў у 1918-м годзе ў Вэрсалі, сказаўшы, што "калі-б яны былі, то ў гэты момант мы рабілі-б захады, як і нашыя балтыйскія суседзі, каб увайсьці ў Эўразьвяз. Заміж гэтага наш прыгожы край ізаляваны, а народ прыгнечаны, і Беларусі пагражае паважная небясьпека зноў страціць сваю незалежнасьць".

"Прыемна чуць, што Вы сабе ўсьведамляеце, што цяперашні рэжым у Менску не рэпрэзэнтуе сабою беларускі народ. "Інтэграцыйныя ігры" з Масквою прывялі да недапушчальнае заявы Пуціна летам 2002-га году пра магчымасьць анэксіі Беларусі Расейскай Фэдэрацыяй. Ня гэтага хоча наш народ. Гэта ні ў якім выпадку ня можа быць выбарам для Беларусі" - сказала Старшыня Рады БНР.

У адказ на спадзяваньні, выказаныя некаторымі брытанскімі дэпутатамі, што супольна з Расеяй яны ўсё-ж забясьпечаць правы чалавека і дэмакратыю для Беларусі, сп-ня Сурвілла парадзіла ім не спадзявацца на дапамогу Расеі. "Расея заўсёды працавала толькі для свае ўласнае карысьці, і гэтым разам будзе рабіць таксама толькі тое, што будзе адказваць ейным інтарэсам."

**ЛМ**

# КАЛЯДЫ Ў КЛІЎЛЭНДЗЕ

Няма, напэўна, сярод беларусаў у Кліўлэндзе такога чалавека, хто не пакаштаваў цудоўных страваў, прыгатаваных сп-няю Еваю Яраховіч. Зграбная гаспадыня, ветлівая жанчына, цудоўная маці - яна была "ахмістрыняю" Каляднае вячэры ў царкве Сьв. Жыровіцкае Божае Маці, што ў Стронгсвіле.

Пасьля Літургіі й зьяўленьня на небе "першае зоркі" болей за сто парафіянаў пачалі вячэру са смачнае куцьці. І гэтая салодкая страва прыпомніла многім маленства, чаканьне сьвята ў бацькоўскай хаце, калі на "шчодры вечар" і "багатую куцьцю" зьбіралася сям'я. Калі зь цёплае печы даставалі смачныя стравы, калі за вокнамі мароз, і дым з коміна суседняе хаты відаць уначы на асьветленым месяцам небе. Вечарына была цудоўная і "шчодрая".

А праз тыдзень "моладзь" наладзіла сьвяткаваньне "старога Новага году". Сабраліся каля двух дзесяткаў сем'яў "новых эмігрантаў" у зале пры царкве. Кожная жонка прыгатавала свой "каронны" пачастунак. Мужчыны ў сваю чаргу паклапаціліся пра якасныя напоі. А таленавіты музыка Хведар Паўлавец забясьпечыў сьвяточны настрой. Яго гармоніка не змоўкала на працягу больш шасьці гадзінаў, і пад музыку гэтага прафэсыйнага акампаніятара працягваліся песьні й танцы. А на заканчэньні вечарыны баяніст віртуозна іграў трымаючы баян за сьпіною.

Урэшце ўсе разьвіталіся стомленыя і ў добрым настрої ды сардэчна дзякавалі Сьвятлане Белай і Іне Прузыні за арганізаванае сьвяткаваньне.

У наступную раніцу ў царкве была і сьвяточная ялінка для дзяцей, і пачастункі, і падарункі.

Дзякуючы Богу, справа, закладзеная заснавальнікамі беларускага асяродку Сяргеем Карніловічам і Кастусём Калошам, жыве і прадаўжаецца.

***Сяргей Васілец з Кліўленду***

# БЕЛАРУСІКА Ў БІБЛІЯТЭЦЫ РАТГЕРСКАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ

**Як інфармуе нядаўна апублікаваны камунікат, у ўнівэрсытэцкай бібліятэцы у горадзе Нью-Брансўіку разбудоўваецца збор беларусікі - кнігаў, часапісаў, архіўных матэрыялаў. Ніжэй падаём у перакладзе поўны тэкст камунікату.**

Беларусь сёньня - незалежная краіна. Яна мае пяць суседзяў: Польшчу з захаду, Летуву з паўночнага захаду, Латвію з поўначы, Расею з поўначы й усходу ды Украіну з поўдня. Беларусы - славянскі народ з даўняй культурай. У Беларусі ёсьць нацыянальныя мяншыні: расейцы, палякі, украінцы, татары, гэбраі ды іншыя. Сотні тысячаў імігрантаў зь Беларусі жывуць у Злучаных Штатах. Адна з найбольшых канцэнтрацыяў іх знаходзіцца ў штаце Нью-Джэрзі. І дзеля гэтага нам належыцца пачаць дакумэнтаваць жыцьцё й культурныя дасягненьні гэтых людзей у іхным спачатным і адаптаваным асяродзьдзі.

Бібліятэкі ўнівэрсытэту нядаўна заклалі аснову збору беларусікі набыцьцём дзьвюх важных калекцыяў. Сям'я памерлага паэта й грамадзкага актывіста зь Мілтаўну ў Нью-Джэрзі, Янкі Золака (псэўдонім Антона Даніловіча), шчодра падарыла ягоныя архівы й кнігі, што дакумэнтуюць блізу 50-гадовы перыяд ягонай літаратурнай і палітычнай дзейнасьці, пераважна ў Нью-Джэрзі. Мы таксама заўдзячваем др. Яну Запрудніку з Самэрсэту ў Нью-Джэрзі, аўтару дзьвюх кнігаў у бібліятэцы ўнівэрсытэту, *Belarus: At a Crossroads in History* (Boulder: Westview Press, 1993) і *Historical Dictionary of Belarus* (Lanham: Scarecrow, 1998), ахвяраваньне ягонага збору кнігаў пра Беларусь ды ягоных архіваў, што дакумэнтуюць больш за трыццаць гадоў кіраваньня Беларускай сэкцыяй радыё "Свабода" ў Нью-Ёрку, а таксама грашовай сумы на набыцьцё й рэгістрацыю кніжак ды рукапісаў зь беларускай тэматыкай.

30-га красавіка 2002-га году дзевяць лідэраў беларускае грамады мелі спатканьне зь бібліятэчнымі кіраўнікамі ў Александраўскай бібліятэцы, каб агледзець калекцыю Янкі Золака ды абмеркаваць далейшае зьбіраньне кнігаў і дакумэнтаў, датычных да беларусаў. Збор будзе мець падвойнае прызначэньне: перахоўваць памяць пра жыцьцёвае дазнаньне беларусаў ды набываць і рабіць даступнымі кнігі й часапісы ў падтрыманьне акадэмічных праграмаў Ратгерскага ўнівэрсытэту. Кніжныя зборы ўнівэрсытэту адкрытыя для публікі й кнігі можна пазычаць праз міжбібліятэчную службу. Мы асабліва зацікаўленыя ў набываньні дзёньнікаў, лістоў і дакумэнтаў з арганізацыйнай дзейнасьці беларусаў Нью-Джэрзі, а таксама грамадзкіх арганізацыяў, такіх як рэлігійныя, культурныя й самадапамаговыя згуртаваньні.

Ратгерскі ўнівэрсытэт будзе рады бачыць ахвотнікаў дапамагчы працаю або грашыма ў каталягізаваньні матэрыялаў, якія ў ладнай меры напісаныя беларускаю кірыліцаю. Унівэрсытэт таксама дае курсы ўсходнеэўрапейскай культуры, кіно, палітыкі, шмат зь якіх уключаюць і Беларусь. Каб падтрымаць гэтыя праграмы, намагаючыся заснаваць стыпэндыяльныя фонды, прыбыткі зь якіх ішлі-б на закуп кніжак пра ўсходнеславянскую культуру й гісторыю. Выпускнікі Ратгерскага ўнівэрсытэту ды іншыя асобы, якія хочуць падтрымаць гэтыя праекты, могуць даваць ахвяраваньні Фундацыі Ратгерскага Ўнівэрсытэту (Rutgers University Foundation, Winants Hall, 7 College Avenue, New Brunswick, NJ 08901-1261). Калі ласка, не забудзьце зазначыць у лісьце або на чэку, што Вашае ахвяраваньне прызначанае на падтрымку беларускае калекцыі ў бібліятэцы ўнівэрсытэту.

Калі Вы згодныя дапамагчы гэтай справе, калі ласка, кантактуйце з Ронам Бэкерам, загадчыкам Адмысловага Збору, у пытаньні рукапісаў (Ron Becker, Head of Special Collections, tel. (732)932-7006), e-mail: **rbecker@rci.rutgers.edu**, з Джымам Нісэнам у пытаньнях кнігаў (Jim Niessen, World History Librarian, e-mail: **niessen@rci.rutgers.edu**, tel. (732)9327129 x136, або зь любым зь іх у справе зьмешаных калекцыяў. Абодвы яны знаходзяцца ў Александраўскай бібліятэцы (Alexander Library, 169 College Avenue, New Brunswick, NJ 08901-1261). З пытаньнямі можаце зьвяртацца да др. Вітаўта Кіпеля, старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва: 1797 Buttonwood Avenue, Toms River, NJ 08755, Tel.: (732) 557-0094.

# ВІНШАВАНЬНЕ ДЛЯ КАРАЛЕВЫ ЛІЗАВЕТЫ II

У 2002-м годзе Брытанская Каралева Лізавета Другая адзначала залаты юбілей (пяцідзесяцігодзьдзе) уступу на каралеўскі трон. З гэтае нагоды ў Вялікай Брытаніі ды іншых дзяржавах, якія належаць да Брытанскай Садружнасьці Народаў, праходзілі ўрачыстасьці з малебнамі, канцэртамі, парадамі, віншаваньнямі й пажаданьнямі. Усё адбывалася ўрачыста і прыгожа.



Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі таксама даслала віншаваньне да Яе Вялікасьці Каралевы Лізаветы Другой .

На нашае віншаваньне, Яе Вялікасьць прыслала ліст-падзяку.

***М. ШВЭДЗЮК***

**ASSOCIATION OF BELARUSIANS IN GREAT BRITAIN**

*52 Pen Road London N7 9RE*

*Tel:/Fax: 0161 740 0555*



ON THE OCCASION OF THE GOLDEN JUBILEE of the ACCESSION to the Throne of Her Majesty Queen Elizabeth the Second, of Great Britain, Northern Ireland and other Realms and Dominions by the Grace of God, Queen Defender of the Faith and Head of the Commonwealth, remembering also Her Majesty's illustrious descent from Our Sovereign Lady Rahnieda, Princess of Polacak (d. 1000), and from the Royal House of Vaza, sometime Grand Dukes of Lithuania, Ruthenia and Samogitia (1587-1668).

The Association of Belarusians in Great Britain, on behalf of Her Majesty's Loyal subjects of Belarusian origin, and of all Belarusians resident within Her Realms as aforesaid, offer thanks to Almighty God for the favour of Her Protection throughout Her Reign, and crave leave to express their Loyal Greetings and Respectful Congratulations to Her Majesty Queen Elizabeth and to all Members of the Royal Family, with their warmest wishes for a long life, health and happiness and for peace, amity and concord between Her Realms and Dominions and the Republic of Belarus. Ad multos annos.

***God Save The Queen***

***Chairperson Helen MICHALUK***
***Secretary Ihar LABACIEVICH***



Prince Phillip and I have been deeply touched by the many kind messages about the Golden Jubilee.

This anniversary is for us an occasion to acknowledge with gratitude the loyal and support which we have received from so many people since I came to the Throne in 1952. It is especially an opportunity to thank all those of you who help others in your own local communities through public or voluntary service. I would like to think that your work will be particularly recognized during this Jubilee year.

I hope also that this time of celebration in the United Kingdom and across the Commonwealth will not simply be an occasion to be nostalgic about the past. I believe that, young or old, we have as much to look forward to with confidence and hope as we have to look back on with pride.

I send my warmest good wishes to you all.

***ELIZABETH R.***

# Беларусь за месяц

## СХОД ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

19-га студзеня ў Менску, у Палацы мастацтваў, адбыўся сход гарадзкой інтэлігенцыі. Яго ўдзельнікі мусілі вылучыць дэлегатаў на Ўсебеларускі сход інтэлігенцыі, які павінен прайсьці 16-га лютага. Удзельнікі сходу прынялі зварот да беларускай інтэлігенцыі й рэзалюцыю, у якой заклікалі вылучаць на рэгіянальных зьездах прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты на Ўсебеларускі сход. На форуме 16-га лютага, які пройдзе пад лёзунгам "Свабодная Беларусь - заможнае жыцьцё" маркуецца абмеркаваць найбольш актуальныя праблемы па трох кірунках: навука, культура і духоўнасьць; стан грамадзтва; пытаньні эканомікі. У паседжаньні бралі ўдзел каля 200 прадстаўнікоў сталічнае інтэлігенцыі, амаль столькі-ж дэлегавалася на Ўсебеларускі сход.

## ПУЦІН У МЕНСКУ

19-га студзеня ў Менск прыляцеў Уладзімер Пуцін. У Нацыянальным аэрапорце расейскага прэзыдэнта сустракалі афіцыйныя асобы, а на Кастрычніцкай плошчы сталіцы дзеячы апазыцыі. Каля двух дзясяткаў актывістаў КХП-БНФ і "Маладога Фронту" пратэставалі супраць інтэграцыі Беларусі з Расеяй. Удзельнікі акцыі трымалі транспаранты "Рукі прэч ад Беларусі!", "Ніякага Саюзу з Расеяй", "Пуцін, прасі прабачэньня ў беларускага народу!". Апошні лёзунг нагадваў пра прапанову Пуціна аб далучэньні Беларусі да Расеі на правах звычайных абласьцей. Удзельнікі акцыі спалілі расейскія грошы й растапталі сьцяг усходняе суседкі. Міліцыя-ж паводзіла сябе даволі мірна, у справу антыінтэграцыі ня ўмешвалася, бо знаходзілася пад пільным наглядам журналістаў, у тым ліку і тэлевізыёншчыкаў.

На наступны дзень, 20-га студзеня, дзеячы апазыцыі паспрабавалі зладзіць паблізу Адміністрацыі прэзыдэнта "Ланцуг неабыякавых людзей", аднак Кастрычніцкую плошчу перакрылі міліцыянты й людзі ў цывільным. Таму акцыя прайшла на рагу праспэкту Скарыны й вуліцы Янкі Купалы. Удзельнікі трымалі ў руках партрэты зніклых вядомых у Беларусі людзей - Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зьмітра Завадзкага, Юрася Корбана.

## ЗВАЛЬНЕНЬНІ ЗЬ "БЕЛАРУСКАГА ЧАСУ"

Напярэдадні праваслаўных Калядаў з прафсаюзнае газэты "Беларускі час" звольнілі некалькіх журналістаў. Некаторыя зь іх мелі досьвед супрацоўніцтва зь незалежнымі структурамі: Уладзімер Дзюба - зь Беларускай Асацыяцыяй Журналістаў, Аляксандар Дубравін - з "Нашай свабодай", Алесь Хмяльніцкі - з "Радыё Рацыяй". Гэта не магло не непакоіць улады. Таму звальненьне незалежных журналістаў было справаю часу, пасьля таго, як з пасады галоўнага рэдактара у канцы ліпеня быў зьмешчаны Аляксандар Старыкевіч.

Імкненьне в. а. галоўнага рэдактара Ірыны Германовіч зрабіць выданьне больш памяркоўным таксама не задаволіла ўлады й пэрсанальна старшыню Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларусі Леаніда Козіка. Тады й Германовіч звольнілі, а замест яе паставілі галоўнаю рэдактаркаю Сьвятлану Балашову, ведамую па працы ў прадзяржаўных "7 днях". Яна хуценька разабралася з унутранаю апазыцыяй, перавёўшы журналістаў на дзьвухгадзінны рабочы дзень і 0,25 стаўкі. Журналісты звольніліся па асабістым жаданьні. У Менску засталіся толькі галоўная рэдактарка, карэктар і вярстальнік. Між тым, за апошнія месяцы наклад газэты зьнізіўся з 40 тысячаў да 12.

Як зазначаюць незалежныя мэдыі, зьмяншаецца колькасьць падпішчыкаў ва ўсіх дзяржаўных СМІ. Так "Народная газэта" згубіла 40% падпішчыкаў, "Зьвязда" - 17%. Трымаць ранейшыя наклады дапамагае ведамасная падпіска ды павелічэньне колькасьці газэтаў у розьнічным гандлі. Але людзі, відаць, стаміліся ад рупараў лукашызму.

## БНФ ПРЭЗЭНТАВАЎ ПРАГРАМУ

14-га студзеня ў сваёй штабкватэры Беларускі Народны Фронт прэзэнтаваў новую праграму дзеяньняў на будучыню. Паводле гэтае праграмы, Беларусь мусіць быць сувэрэннаю дэмакратычнаю прававою дзяржаваю, а з палітычных ладаў найбольш пасуе для яе парлямэнцкая рэспубліка, прэзыдэнт-жа павінен мець прадстаўнічыя функцыі й абірацца парлямэнтам. У сфэры эканамічнай палітыкі БНФ абвесьціў курс на пабудову рынкавай эканомікі, а таксама на разьвіцьцё малога і сярэдняга бізнэсу, рэфармаваньне падаткавай, бюджэтнай і грашова-крэдытных сыстэмаў, правядзеньне аграрнай рэформы, якая прадугледжвае ўвядзеньне прыватнай уласнасьці на зямлю. Адным з прыярытэтаў БНФ застанецца адраджэньне нацыянальнай культуры й мовы. Што тычыцца зьнешняе палітыкі, то Фронту Беларусь бачыцца неад'емнаю часткаю НАТО і Эўразьвязу.

Цяпер справа за дробязьзю - перамагчы на якіх-небудзь выбарах і зрэалізаваць праграму.

## СІЎЧЫКА ВЫКЛЮЧЫЛІ

На Сойме Партыі БНФ, што прайшоў 12-га студзеня, было прынятае рашэньне аб выключэньні з шэрагаў сяброў Партыі Вячаслава Сіўчыка. Як адзначаецца ў пастанове за "разбуральную і дэструктыўную дзейнасьць Сіўчыка, які ўжо паўтары гады не бярэ ўдзелу ў працы арганізацыі, але пераконвае яе шараговых чальцоў не падпарадкоўвацца рашэньням Сойму". Адным з ініцыятараў выключэньня быў намесьнік старшыні Партыі БНФ Юры Хадыка. Ён, праўда, не выключае, што калі Сіўчык прыйдзе на сойм і папросіць прабачэньня за грахі, то будзе адноўлены. Наўрад гэта здарыцца, Сіўчык выглядае вельмі пакрыўджаным і заяўляе, што палітычнай барацьбы ня спыніць. Нагадаем, што ў сваіх выступах ён рэзка крытыкаваў кіраўніцтва БНФ і пэрсанальна Вінцука Вячорку і ставіў пад сумнеў мэтазгоднасьць падзелу Фронту на два крылы - Партыю БНФ і КХП-БНФ.

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ ІЗНОЎ ЯДНАЮЦЦА

Пасьля таго, як Міністэрства юстыцыі не зарэгістравала новую Аб'яднаную Сацыял-Дэмакратычную Партыю, яе кіраўніцтва пастанавіла далучыцца да Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, якую ачольвае Станіслаў Шушкевіч. Нагадаем, што АСДП складаецца з апанэнтаў БСДП "Народная Грамада" Міколы Статкевіча і прыхільнікаў зьмешчанай са сваёй пасады кіраўнічкі жаночай партыі "Надзея" Валянціны Палевіковай. Рашэньне аб аб'еднаньні было прынятае яшчэ 24-га жніўня, але Мінюст углядзеў парушэньні ў пададзеных на рэгістрацыю дакумэнтах і ў рэгістрацыі адмовіў.

13-га студзеня адбыліся перамовы кіраўніцтва АСДП і БСДГ, дзе былі вырашаныя прынцыповыя пытаньні аб'еднаньня. Чакаецца, што аб'яднаўчы зьезд пройдзе ў сакавіку.

Паводле-ж інфармацыі Міністэрства юстыцыі, на 1-га студзеня 2003-га году ў Беларусі зарэгістравана 18 партыяў.

## АНАТОЛЬ БЕЛЫ ПАБІЎ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА

Перад пасяеджаньнем Сходу менскае інтэлігенцыі ў фае Палацу мастацтваў да палітыка Станіслава Шушкевіча падскочыў Анатоль Белы, старшыня гістарычнага клюбу "Спадчына", і без тлумачэньняў ударыў вядомага палітыка ў твар.

У інтэрв'ю дзяржаўнай газэце "Вячэрні Мінск" Белы патлумачыў свой учынак так: Станіслаў Шушкевіч не пагадзіўся з тым, што ён узначаліў створаны са сваёй-жа ініцыятывы аргкамітэт па сьвяткаваньні 100-годзьдзя Беларускай Сацыялістычнай Грамады. І той (Белы) "не заўважыў, як ягоная рука апынулася на твары ведамага палітыка". Падчас паседжаньня Сходу С. Шушкевіч заявіў, што Белы ведамы правакатар і стукач яшчэ з лаўкі БДУ, і прапанаваў не выбіраць яго дэлегатам на зьезд беларускай інтэлігенцыі. Удзельнікі паседжаньня так і зрабілі.

## ЦЯЖКА ЗЬБІЛІ РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА

Увечару ў пятніцу 17-га студзеня, каля свайго дому, быў зьбіты акадэмік Радзім Гарэцкі. Ён вяртаўся з паседжаньня аргкамітэту па сьвяткаваньні 85-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі, прычым было няпозна - палова на восьмую. Акадэміка ў цяжкім стане паклалі ў нэйрахірургічнае аддзяленьне 9-й клінічнай больніцы Менску.

Гэта ня першы напад на прадстаўнікоў інтэлігенцыі сталага ўзросту ў беларускай сталіцы. Раней былі зьбітыя кінарэжысэр Юры Хашчавацкі, тэатральны дзеяч Валер Мазынскі, навуковец Адам Мальдзіс, палітык Аляксей Кароль. А пісьменьнік Артур Вольскі так і ня здолеў канчаткова акрыяць пасьля пабояў.

## СЛАВАМІР АДАМОВІЧ ПАДАЎСЯ Ў ЭМІГРАЦЫЮ

Паэт Славамір Адамовіч выехаў у Нарвэгію, дзе папрасіў палітычнага прытулку. У інтэрв'ю "Нашай Ніве" ён паведаміў, што жыве за палярным колам і чакае на нарвэскае грамадзянства. Таксама паэт быў зьдзіўлены, што ў гэтай краіне абарыгены слаба ведаюць пра Беларусь.

## ІНФАРМАЦЫЙНЫ ПРЭСЫНГ ПА-БЕЛАРУСКУ

На УКВ-хвалях прыпынілася вяшчаньне расейскіх радыёканалаў "Маяк", "Юность" ды "Голос России". Паводле афіцыйнае вэрсіі Міністэрства інфармацыі, беларусам дорага каштуе рэтрансьляцыя расейскіх радыёстанцыяў. Іх цяпер заменяць беларускамоўным па форме і прадзяржаўным радыё "Сталіца".

## ЮБІЛЕЙ МІНДОЎГА

У Менску створаны аргкамітэт па сьвяткаваньні 750-годзьдзя з дня каранацыі ў Навагрудку літоўскага князя Міндоўга (ён каранаваўся 6-га ліпеня 1253-га году, і гэты дзень справядліва можна лічыць адлікам гісторыі Вялікага Княства Літоўскага). Узначаліў грамадзкі камітэт Анатоль Грыцкевіч. Сьвяткаваць пачнуць яшчэ ў траўні: будзе праведзеная міжнародная канфэрэнцыя, пастаўленая опэра "Князь Наваградзкі". Непасрэдна 6-га ліпеня пройдзе ўрачыстае паседжаньне і сьвяточны канцэрт.

*Уласны карэспандэнт*

## ПТУШКІ ЗЬМІТРА ХАЛАДЗІНСКАГА

На І міжнароднай выставе "Птушка, якая аб'ядноўвае нас", якая прайшла ў студзені ў Менску, бралі ўдзел арнітолагі зь Беларусі, Расеі, Украіны, Туркмэніі, Кітаю. А пераможцам стаў Зьміцер Халадзінскі з Маладэчна, які разам са сваім клюбам аматараў птушак прывёз на выставу 56 галубоў і 80 іншых птушак. Птушкі ацэньваліся па 100-бальнай сыстэме. Найпрыгажэйшымі былі прызнаныя самец і самка туркмэнскага агарана, якіх прывёз З. Халадзінскі. Птушкі атрымалі 94 і 92 балы адпаведна.

Пярнатыя абыходзяцца маладачанцу ў немалую капейчыну. На іх трэба тры мяхі збожжа ў месяц і 1 кіляграм мяса ў тыдзень. Аднак, па словах Зьмітра Халадзінскага, галубы ўжо навучыліся зарабляць грошы. Яны "працуюць" у маладэчанскім ЗАГСе. З. Халадзінскі прыносіць іх маладым, каб тыя пусьцілі па птушцы ў неба. Ёсьць такое павер'е: хто выпусьціць голуба ў неба, той будзе шчасьлівы ўсё жыцьцё.

## КРАДУЦЬ УСЕ

У Беларусі пачасьціліся крадзяжы, і Маладэчаншчына тут не выключэньне. Так у адзін з калядных вечароў у гаспадыні з Маладэчна з хлява скралі 16 курэй і 3 мяхі бульбы, а ў вёсцы Заскавічы злодзей з паветкі скраў кавалак мяса вагою 7 кілаграмаў. Але самы надзвычайны выпадак адбыўся 14-га студзеня, на "стары Новы год". Сярод белага дня ля дзіцячай палiклінікі злаўмысьнік скраў дзіцячы вазок. Злачынцу затрымалі.

*Паводле "Рэгіянальнае газэты"*

# НЯ ЙДЗІЦЕ - ПАДМАНУЦЬ!

*Заканчэньне. Пачатак на бач. 1*

государственной монополии остается сделать один шаг - выразить народное недоверие зарвавшейся власти посредством массового выступления, голосования на выборах или референдуме. Такая возможность скоро представится - надо не упустить шанс."

Вось для гэтага і пісаўся ўвесь гэты "радыкальны" прапагандысцкі артыкул, каб зьбіць з тропу нацыянальна актыўных выбаршчыкаў, інтэлігенцыю, беларускіх прадпрымальнікаў, каб выклікаўшы давер - ашукаць іх і накіраваць на фальшывы шлях, зацягнуць на выбары й "рэфэрэндум", упіхнуць у здраду.

* * *

Прамаскоўскае лобі ў так званай "апазыцыі" сваю справу робіць. Гэтыя спакушаныя і выкармленыя Гансам Вікам ды Масквою "грантавыя дэмакраты" даўно ператварыліся ў прамаскоўскую апазыцыйную "пятую калёну" ў Беларусі.

Беларусы ня могуць не задумацца. Бо мінае час беспакарaных дзеяньняў і безадказных заяваў. З усходу набліжаецца вайна. Пакуль што яна вядзецца мірнымі сродкамі. Але цяжка паверыць, што захоп Беларусі расейцы зробяць гэтак ціха, беларускімі-ж рукамі, і беларусы, як пісаў паэт, бяз скаргі палягуць у магілу.

Беларусы мусяць ужо рыхтавацца да сур'ёзнага змаганьня за свабоду і незалежнасьць, за сваю зямлю і дзяржаву. Не забывайма, што Расея ледзь ліпіць (і гэта пры бясприцыпнай дапамозе Захаду). Дастаткова нават штурхнуць, і яна пасыплецца, як куча хламу. Беларусы не павінны баяцца такіх акупантаў. Таго, хто дзярэцца ў наш дом, трэба біць між вачэй.

Ніхто не павінен ісьці на фальшывыя выбары. Ніхто не павінен ісьці галасаваць. Пачынайма сур'ёзна змагацца за самых сябе. Хопіць скардзіцца на лёс. Ня йдзіце - падмануць!

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# ЛЯВОН ШУРАК - ПАЛІТЫЧНЫ Й ГРАМАДЗКІ ДЗЕЯЧ

Зь Лёнем Шураком мы некалі - у канцы 50-х ды на пачатку 60-х гадоў - належалі да рэдкалегіі часапісу "Беларуская Моладзь". Разам зь іншымі сябрамі рэдкалегіі - Міхасём Бахарам, Вітаўтам Кіпелем, Васілём Мельяновічам, Міхасём Палюховічам, Міхасём Сенькам, Вячкам Станкевічам, Юркам Станкевічам і Віталем Цярпіцкім - давалі старэйшым дзеячам прыклад супрацоўніцтва паміж "крывічамі" й "зарубежнікамі".

Далейшымі гадамі мы зь Лёнем час ад часу бачыліся на розных урачыстасьцях, абменьваліся сякімі-такімі навінамі, найбольш зь беларускага грамадзкага жыцьця, але ў біяграфіі адзін аднаго не заглыбляліся. Я ведаў, што ён быў пэўны час сакратаром беларускай вэтэранскай арганізацыі ды сакратаром нью джэрзыйскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Але вось 11-га верасьня 2002-га году, калі ў Саўт-Рывэры адзначаліся каля помніка вэтэранам вайны першыя ўгодкі тэрарыстычнага нападу на Амэрыку, беларускім удзельнікам сярод шматтысячнай грамады было прыемна пабачыць Лявона Шурака як кіраўніка саўтрывэрскай арганізацыі амэрыканскіх вэтэранаў. У сваёй прыгожай уніформе, Лявон уручаў сьцяг Амэрыкі для ўрачыстага ўзьняцьця яго на флягштоку каля помніка вэтэранам.

Як выявілася пазьней у гутарцы з маім сябрам, на ягоным рахунку ня толькі годнасьць кіраўніка саўтрывэрскае вэтэранскае арганізацыі (235 сяброў, становішча кіраўніка - выбарнае). Лёня старшынюе ўжо ў арганізацыі Вэтэранаў Замежных Войнаў другі тэрмін.

Вайсковую службу ён адбыў неўзабаве пасьля прыезду ў 1950-м годзе ў Злучаныя Штаты. У 1952-м годзе яго змабілізавалі ў армію. Вышкаленьне праходзіў разам з такімі-ж навабранцамі-сябрамі Алегам Дубягам і Алегам Махнюком. Толькі што тых паслалі ў Карэю, а яго - у Нямеччыну, дзе й адбыў два гады службы. Арміі спатрэбіліся Лёневы веды замежных моваў: нямецкае, расейскае й польскае.

За мінулыя дзсяцігодзьдзі Лёня папоўніў сваю біяграфію цэлым шэрагам дасягненьняў.

Пасьля вайсковай службы працаваў пятнаццаць гадоў у вялікай кампаніі "Уэстынггаўз", здабываючы аднačасна ступень бакаляўра ў галіне мэнаджмэнту. Калі кампанія перабіралася ў іншае месца, Лявону давялося зьмяніць працадаўцу, бо толькі што быў куплены новы дом, а маладая сям'я Шуракоў чакала "прыбытку" ў сваёй хаце. Нарадзілася дачушка.



На новай працы ў кампаніі "Гэркулес" зьмяніўся крыху профіль заняткаў - Лявону даручылі з часам адказнасьць за закуп сырвіны для хімічнага вырабу тавараў. Колькасьць робленых закупаў вымяралася дзесяткамі мільёнаў даляраў на год. Але й тут Лёня выдатна справіўся з сваімі абавязкамі. Шмат давялося папаездзіў па Амэрыцы ў сувязі з прафэсыйнымі канфэрэнцыямі й нарадамі.

Пры ўсёй сваёй занятасьці службовую працаю Лявон Шурак знаходзіў час займацца грамадзкаю і палітычнаю дзейнасьцю на саўтрывэрскім форуме. Працягам гадоў, апрача ўзначальваньня вэтэранскае арганізацыі (якая мае свой будынак, рэстаран, бар, залю для розных урачыстасьцяў), Лявон уваходзіць у склад гарадзкога Камітэту Дэмакратычнай Партыі. Саўт-Рывэр, які налічвае 16 тысячаў жыхароў, падзелены на 14 выбарчых акругаў. У кожнай зь іх дэмакраты й рэспубліканцы выбіраюць кожны ў сваю партыю па двое сяброў ад акругі (мужчыну й жанчыну) у камітэт свае партыі. Дарэчы, дэмакратаў у Саўт-Рывэры ў тры разы больш як рэспубліканцаў. Партыйныя камітэты праводзяць што месяца свае паседжаньні. На паседжаньні запрашаюцца перспэктыўныя кандыдаты, урадоўцы, экспэрты, каб сябры камітэту маглі паінфармавацца ў бягучых палітычных, сацыяльных, бюджэтных ды іншых пытаньнях. Паінфармаванасьць ім патрэбная, бо іхная асноўная функцыя - вылучаць кандыдатаў на розныя выбарныя становішчы, у тым ліку й мэра гораду.

Лявон Шурак актыўна ўдзельнічае на грамадзкай аснове ў працы адміністрацыі Саўт-Рывэру. Ён - дарадца мэра гораду сп. Робэрта Шыгеты па справах старэйшых грамадзянаў. Лявон - таксама адзін з трох сяброў Мясцовай Службы Дапамогі. Заданьне службы - дапамагаць людзям у бядотным стане (бяздомным, алькаголікам, наркаманам ды іншым) начлегам, вопраткаю, харчамі. У нашага Лёні добрае сэрца.

Шэсьць гадоў Лявон Шурак адбыў на становішчы сябры гарадзкой камісіі па справах будаўніцтва; чатыры гады ўваходзіў у камісію па захаваньні гістарычнае спадчыны. Быў ён таксама прадстаўніком ад беларускае грамады ў штатавым камітэце па справах этнічных групаў.

Лявона Шурака добра ведаюць жыхары Саўт-Рывэру. Шмат каму зь іх даводзілася супрацоўнічаць зь ім у розных справах, карыстацца ягоным пасярэдніцтвам. Яны сардэчна вітаюцца зь ім пры сустрэчах на вуліцах гораду.

Лявонава шматгадовая дзейнасьць належна адзначаная ўладамі гораду Саўт-Рывэру й штату Нью-Джэрзі. Летась яму былі ўручаныя ганаровыя граматы ад кіраўніцтва Мідлсэкскага графства (каўнты), а таксама ад асамблеі штату Нью-Джэрзі з адзначэньнем ягоных заслугаў як каманданта вэтэранскае арганізацыі й актыўнага грамадзяніна.

На пытаньне, ці ня зьбіраецца ён наведаць свае родныя мясьціны на Меншчыне каля Пухавічаў - пабачыць вёску Ганутаў, дзе нарадзіўся, палюбавацца рэчкай Балачанкай, што ўпадае ў Сьвіслач, пабыць у вёсцы Французкая Грэбля, куды хадзіў у школу - Лёня кажа:

- Добра было-б пабыць там. Але не пры цяперашнім рэжыме, які моцна нагадвае змрочныя трыццатыя гады, калі былі арыштаваныя мой бацька й два ягоныя браты. Усе яны загінулі недзе ў Курапатах. З падарожжам у Беларусь пачакаю да лепшых дзён.

*Янка ЗАПРУДНІК*

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКАЯ ХАТА Ў ЗАХ. АЎСТРАЛІІ

## Зь гісторыі будаўніцтва

Беларусы ў Заходнюю Аўстралію пачалі прыбываць у другой палове 1948-га году, а арганізаванае грамадскае жыцьцё беларускае грамады пачалося толькі 6.1.1951 году. У гэты дзень на зборцы ў спадара Міхася Раецкага ў пасёлку Кэлмскот была створаная першая ў гісторыі гэтага штату беларуская арганізацыя пад назваю "Аддзел Беларускіх Вэтэранаў". Як падказвае сама назва, да гэтага аддзелу належалі толькі мужчыны. У мэтах арганізацыі былі: пошукі новых сяброў, адзначэньне нацыянальных сьвятаў і навязваньне сувязяў з арганізацыямі іншых нацыянальнасьцяў.

Рэлігійнае жыцьцё тут зарганізаваў а. Барыс Камінскі, які прыбыў сюды з Квінсленду, а ў наступным годзе сюды пераехаў з Мэльбурну галава БАПЦ архіяпіскап Сяргей, а за ім і айцец Яцкевіч.

Пасьля зарганізаваньня рэлігійнага жыцьця узьнікла праблема, дзе адпраўляць службы. Дзеля гэтага была скліканая зборка сяброў Аддзелу, на якой было пастаноўлена здабыць уласнае памешканьне. На гэта пачалі зьбіраць грошы. Дапамагалі ў гэтым і сурodзічы зь іншых штатаў. Вынакам гэтых стараньняў стала купля дзялкі ў другой палове 1956-га году, на якой была пабудаваная частка хаты. Пы заўзятых стараньнях за пару гадоў будынак быў дакончаны. Архіяпіскап жыў у адной палове і вёў службы ў другой, праводзіліся сьвяткаваньні ды іншая грамадзкая дзейнасьць.



Праз нейкі час з Пэрту ў Адэлаіду пераехаў архіяпіскап Сяргей. Для бясьпечнасьці хаты трэба было, каб у ёй хтосьці жыў. Спачатку ў Хаце жылі дзеці ахвярадаўцаў, пазьней трэба было знайсьці лякатара, з рэнту якога-б пакрывалі выдаткі, зьвязаныя з утрыманьнем Хаты. Ад'ехаўшы ў Адэлаіду, архіяпіскап Сяргей сьвятара па сабе не прыслаў, з гэтае прычыны рэлігійнае жыцьцё ў Пэрце замерла да аж да 1990-га году.

У 1990-м годзе ў Пэрт прыехаў з Англіі а. Уладзімер Зайка, які па кароткім часе аднавіў рэлігійнае жыцьцё. Службы Божыя а. Уладзімер адпраўляў у англіканскай царкве, за карыстаньне якою неабходна было плаціць. Выйсьцем з гэтага становішча было давядзеньне да ладу свайго памешканьня. Для гэтага быў зроблены збор ахвяраў сярод мясцовых сяброў, атрымалі грошы ад лятарэі, якую выстаралася матушка Ірэна, ды сакратар-скарбнік Алесь Мароз узяў пазычку з банку. Дабудаваньне траціны велічыні ўжо існаваўшай Хаты канчаткова разьвязала нашую праблему з памешканьнем. У дабудаванай частцы маляваньне і чышчэньне, а таксама маляваньне царквы навонкі выканалі а. Уладзімер, матушка Ірэна, Марыя, Алесь Мароз і другія, прозьвішчы каторых я ня змог устанавіць, за што прашу іхняга прабачэньня. Трэба дадаць, што ўсё, што зьвязанае з Хатаю ад пачатку і да сёньня ляжыць на плячох сям'і Мароз.

*РМ*




# Весткі й Паведамленьні

нью ерскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 **Сусьветнае павуціньне:** http://belam.cjb.net №2 (445)


# СТУДЗЕНЬСКІ СХОД І КАЛЯДНАЯ ІМПРЭЗА НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА

У суботу 11-га студзеня 2003-га году ў грамадзкай залі пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адбыўся сход аддзелу, а таксама калядная імпрэза, ладжаная разам з парафіяльнаю радаю Сабору.

Напачатку старшыня нью ёрскага аддзелу сп. Віталь Зайка павіншаваў прысутных з Новым годам і Каляднымі сьвятамі, пажадаў здароў'я, аптымізму і сілаў для далейшае працы на карысьць агульнае справы й Бацькаўшчыны.

Затым выступоўца паінфармаваў прысутных пра падзеі ў Беларусі за апошні месяц. Сярод заўважных падзеяў былі ўзгаданыя пажар у Нясьвіжскім палацы дзеля нядбайнасьці рэстаўратараў; працяг Лукашэнкам спробаў стварыць дзяржаўную ідэалёгію на падставе прынцыпаў Расейскай праваслаўнай царквы; маючая адбыцца ў Беларусі перарэгістрацыя ўсіх рэлігійных арганізацыяў і суполак; чарговы акт вандалізму ў Курапатах; падрыхтоўка рэжымам зьменаў у беларускім правапісе; аднаўленьне мандату Місыі АБСЭ; спыненьне рэтрансьляцыі шэрагу радыёпраграмаў з Расеі; высечка лесу ў запаведнай Белавежскай пушчы.

Пасьля гэтага слова ўзяла спня Валянціна Якімовіч, якая распавяла прысутным пра старадаўнія традыцыі сьвяткаваньня Калядаў і пра свой досьвед калядаваньня, пра валачобны абрад.

Імправізаваны хор пад кіраўніцтвам сп-ні Алы Орса-Романо хораша выканаў разам з прысутнымі шэраг сьпеваў, сярод якіх былі калядкі "Неба і Зямля", "Саўка ды Грышка", сусьветна вядомая калядная песьня "Ціхая Ноч, Сьвятая Ноч" у беларускім перакладзе. Падглядаючы часам у раскладзеныя на сталах тэксты песьняў з нотамі, прысутныя весела падцягвалі калядныя сьпевы.

Затым усе актыўна далучыліся да калядных гульняў, дзе рэй вяла сп-ня В. Якімовіч. Усе з энтузыязмам сьпявалі валачобныя калядкі й хадзілі ў карагодах. Прагучалі сьпевы "Шчодры вячор, добры вячор", "Ой, Калядачкі, вы прыдзіце к нам".

Сп-чня Ксеня Капытка прыгожа прачытала верш "Дзядуля Каляда".

Адбылася сьвяточная лятарэя, на якой галоўны прыз выйграў сп. Вячка Станкевіч. Прыбытак ад лятарэі пайшоў на падтрымку выданьня газэты "Беларус".

Для гасьцёў быў падрыхтаваны шчодры пачастунак з беларускіх нацыянальных страваў, добрага віна ды іншых трункаў. Усе да ночы танчылі пад беларускія традыцыйныя ды папулярныя мэлёдыі й сьпевы.

На сход ды імпрэзу прыйшло больш за 70 чалавек, сярод якіх было шмат моладзі й тых, хто ўпершыню завітаў на імпрэзу аддзелу БАЗА.

Шчырая падзяка за цудоўную падрыхтоўку імпрэзы належыцца спн.сп. Але Орса-Романо, Валянціне Якімовіч, Тацьцяне Красоўскай, Валеру Дворніку, Аляксандры Лістоўскай, Сяргею Пятровічу ды інш.

*Віталь ЗАЙКА*

# ЦЫКЛЬ ГУТАРАК АБ ВЫДАТНЫХ АСОБАХ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў ЗША

Першая такая імпрэза запляная на 8-га лютага, дзе з гутаркаю пра Янку Станкевіча, выдатнага грамадскага дзеяча, мовазнаўцу, перакладчыка Бібліі па-беларуску, выступіць сп. Вячка Станкевіч. У гэтым годзе нью ёрскі аддзел БАЗА плянуе правесьці шэраг гутарак і лекцыяў, прысьвечаных асобам, якія найбольш актыўна спрычыніліся да грамадзкага й палітычнага жыцьця беларускае грамады ў ЗША, заклалі падваліны беларускіх арганізацыяў, самаахвярна працавалі ў шэрагах гэтых арганізацыяў, зрабілі заўважнаю беларускую прысутнасьць у Амэрыцы. Сярод асобаў, прапанаваных для гэтага цыклю - А. Адамовіч, Н. Арсеньнева, М. Гарошка, а. Хв. Данілюк, Ф. Кушаль, П. Міpaновіч, М. Міцкевіч, А. Орса, І. Паланевіч, Ст. Станкевіч, Я. Станкевіч, архіяпіскап Васіль (Тамашчык), М. Тулейка, В. Тумаш.

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ю. Лапіцкі | 50 | Я. Каханоўская | 30 |
| Ю. Андрусышын | 30 | Э. Норык | 30 |

**БелПом:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| М. Баяроўскі | 30 | А. Субота | 20 |
| К. Ворт | 30 | Ю. Касьцюкевіч | 10 |
| К. Верабей | 20 | | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***

**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя* ***A. Mickievic***

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 8-га ЛЮТАГА 2002 ГОДУ А 7-й ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

## наведайце КАНЦЭРТ

## маладзёвага хору "КРЫНІЧКА" зь Менску



Гэты калектыў быў заснаваны ў 1986-м годзе. Узрост удзельнікаў ад 14 да 25 гадоў. У рэпэртуары беларускія народныя, клясычныя, духоўныя, а таксама сучасныя песьні. Прыбытак ад канцэртаў "КРЫНІЧКІ" ў ЗША пайдзе на дапамогу дзецям-ахвярам Чарнобылю.Канцэрты хору адбудуцца:

**1-га лютага ў залі Сабору Сьв. К. Тураўскага на 401 Atlantic Ave. ў Брукліне;**
**7-га лютага ў Беларускім Грамадзка-Культурным Цэнтры на Whitehead Ave ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі.**

 



# СМУТА

## Трэба трымацца далей ад жудаснае Расеі!

***Вялізарны быў гэты ідал, у незвычайным бляску стаяў ён перад табою, і страшны быў выгляд у яго.***

*(Кніга прарока Данііла. 2:39)*

Гісторыя ўтварэньня і існаваньня расейскай імпэрыі - гэта як тамы сьледчай справы. Галасы сьведкаў праз тоўшчу стагодзьдзяў гучаць прыглушана, ледзь чутна, але ня менш хвалююча і пераканаўча. Штрыхамі тысячагадовага пратаколу вырысоўваюцца контуры маскоўскага монстра, дзяржаўнага ідала, якому цяжка знайсьці роўных у чалавечай гісторыі. Хто вынішчыў, згвалціў і абрабаваў большую колькасьць народаў, культураў і цывілізацыяў? Хто паглынуў шырэйшыя прасторы несваёй зямлі? Хто здолеў навязаць мільёнам людзей сваю ідэялёгію, а да таго-ж стварыць уласны прывабны й фальшывы вобраз? Сарданапал, Аціла, Тамэрлан, Чынгіс-хан, Гітлер? Нельга параўнаць гэтых антыгерояў чалавецтва з партрэтнай галерэяй расейскага паноптыкума. Ня тыя часовыя і прасторавыя маштабы, ня тая бясконцасьць кашмара, ня тая здольнасьць да пераўвасабленьня і мімікрыі. Аціллы ды гітлеры пранесьліся па Эўропе разбуральным сьмерчам, іх перамаглі цывілізаваныя народы, яны сталіся прадметам далёкіх успамінаў і навуковых дасьледаваньняў. Расейская імпэрыя працягвае жыць, калос на гліняных нагах яшчэ кідае свой змрочны цень на цэлыя кантынэнты, засьціная сонца ад мільёнаў людзей, напаўняе трывогаю сэрцы народаў.

У біяграфіі маскоўскага монстра былі, аднак, моманты, калі здавалася, што яму канец. Што ён амаль разбураны й стаіць на краю бездані. Але, як у фільме жахаў, пачвара ажывае зноў і зноў, перасьледуе сваю ахвяру і палохае гледачоў. Сакрушальная параза ў Лівонскай вайне, напалеонаўская выправа "двунадесяти языков" і пажар Масквы, катастрофа ў Першай і Другой сусьветных войнах... З мора крыві й руінаў уздымаецца эўра-азіяцкі калос, усхваляе сябе і зноў бярэцца за сваю сатанінскую справу. Прычым адметнасьцю гэтае істоты зьяўляецца рэгулярны працэс самазьнішчэньня, калі разбуральная энэргія накіроўваецца ўнутр сябе. Не надта яркімі эпізодамі выглядаюць на фоне маскоўскіх рэпрэсіяў Варфаламееўская ноч у Парыжы або гішпанскія аута-да-фэ. Ня той размах! Вайна супраць свайго народу, масавае зьнішчэньне ўласных грамадзянаў, сваёй-жа эліты падчас апрычніны, царкоўнага расколу, пятроўскіх "рэформаў", ленінскічыны-сталінщчыны не паддаюцца ніякому спосабу вымярэньня. Расея - гэта жыцьцё паводле прынцыпу адмоўнага натуральнага адбору.

Чатырыста гадоў таму, у 1603-м годзе ў маскоўскай імпэрыі пачаўся крызыс, сацыяльна-палітычная катастрофа, якую яшчэ сучаснікі падзею назвалі "смутным часам". На дзіва, крызыс быў выкліканы не чужынскім нашэсьцем, а ўнутраным распадам згнілага нацыянальна-дзяржаўнага арганізму. Перадгісторыю і першапрычыны гэтага працэсу трэба шукаць у 16-м стагодзьдзі. Імпэрская махіна пад кіраўніцтвам шызафрэніка Івана Жахлівага сутыкнулася зь дзяржавамі заходняе цывілізацыі Швэцыяй, Лівоніяй, Беларусьсю. Рывок да Балтыйскага мора праваліўся. У 1558-83-х гадох маскоўская азіятчына пацярпела паразу на эўрапейскім фронце. Расейскія сілы, вычарпаныя вайною, былі яшчэ больш грунтоўна падарваныя ў ходзе непараўнальнага "народна-гаспадарчага" экспэрымэнту пад камандаю сярэднявечнага НКВД - апрычніны: адзяржаўліваньня зямлі й канчатковага пераводу ўсіх жыхароў у статус "холопей государевых" (не выпадкова Сталін так натхняўся вобразамі той эпохі). Краіна, аднак, не вытрымлівала такога гвалту. Расейцы актыўна пабеглі ў казакі й заняліся разбоем. На слабым розумам цары Фёдары Іаанавічы згасла дынастыя Рурыкавічаў. Новы цар Барыс Гадуноў, ратуючы сваю баярскую партыю і канцэпцыю трэцяга Рыму, разгарнуў быў "перастройку". Ды сканчыў, як і Гарбачоў, дэманстрацыяй нерэфармавальнасьці свае імпэрыі. Мітынг у Крамлі з нагоды згону Гадунова, паводле А. Пушкіна, завяршыўся хрыстаматыйным "народ безмолвствует". Вернутыя з выгнаньня ворагі Гадунова Шуйскія ўжо не маглі спыніць працэс распаду. У 1603-м годзе пачался тое, што памянёны Пушкін трапна вызначыў як "русский бунт, беспощадный и бессмысленный"... Сума народнага гневу дасягнула крытычнай масы. Шматтысячная паўстанцкая сялянская армія Івана Балотнікава пагражала нават Маскве. Цар Васіль Шуйскі здолеў выратаваць дзяржаву з апошніх сілаў, ужываючы тактыку дзікіх рэпрэсіяў і выпаленай зямлі. Гэта быў клясычны перыяд у фармаваньні расейскай мадэлі буйнамаштабнага зьнішчэньня ўласнага народа. Адбывалася накапленьне гістарычнага досьведу крамлёўскай элітай, паступовая распрацоўка на практыцы мадэлі, паводле якое мільёны чалавечых жыцьцяў роўныя нулю. Гэты дзяржаўна-крымінальны досьвед маскоўскія кіраўнікі рэгулярна і актыўна будуць выкарыстоўваць у наступных стагодзьдзях, зьдзіўляючы чалавецтва вернасьцю пачварнай традыцыі ва ўмовах, калі сьвет вакол Расеі няспынна мяняўся. Настала 21-е стагодзьдзе, а крамлёўскі царок з маральнай неабцяжаранасьцю збачэнца-карніка наладжвае забойчую газавую атаку ў маскоўскім тэатры ды яшчэ выхваляецца яе вынікамі перад цэлым сьветам...

Маятнік гістарычнага лёсу хіснуўся ў адваротны ад Масквы бок. Больш чым стогадовая расейская экспансія на Захад пачынаючы ад 1492-га году - праз Беларусь у Эўропу - на пачатку 17-га стагодзьдзя выклікала магутны рэзананс: Эўропа рушыла на Расею, караючы краіну-агрэсара. Адною з важнейшых сюжэтных лініяў ваенна-палітычнае драмы была беларуская тэма. Абодва Ілжэдзімітра, якія сьцьвярджалі па чарзе, што яны ёсьць выратаваны ад сьмерці малодшы сын Івана Жахлівага, і дамагаліся расейскага трону, былі беларусы. Ілжэдзімітры І - Грышка з дваранскага роду Атрэп'евых беларускага паходжаньня, цараваў у Маскве ў 1605-06-х гадох. Ілжэдзімітры ІІ, "Тушынскі злодзей" - паповіч, настаўнік са Шклова (радзіма стольких палітычных авантурнікаў!), называўся расейскім царом колькі месяцаў да восені 1608-га году. Абодва трагічна загінулі ў віры смуты. Цяпер-бы мы сказалі, што гэта былі няўдалыя апэрацыі беларускіх спэцслужбаў. Бо шматхадовую распрацоўкаю з "уваскрошшым" крамлёўскім прынцам займаліся першапляновыя асобы нашае дзяржавы канцлер ВКЛ Леў Сапега, князі Адам Вішнявецкі й Ян Сапега. Беларускія атрады бралі актыўнейшы ўдзел у ваенных дзеяньнях на тэрыторыі Масковіі, вызвалялі й абаранялі захопленыя расейцамі ў 16-м стагодзьдзі гарады Смаленшчыны, штурмавалі Маскву, Угліч і Кастраму, даходзілі да Яраслаўля, Волагды й Белага возера. Знакаміты эпізод з опэры "Сьмерць за цара" зьвязаны якраз зь беларускім аддзелам, які меўся захапіць нядаўна каранаванага Міхаіла Раманава, і быў заведзены ў пастку Іванам Сусаніным. Войскамі камандавалі нашы выдатныя палкаводцы Леў Сапега, Ян Кароль Хадкевіч, Ян Пётр Сапега, Аляксандар Лісоўскі, Януш Кішка. У 1610-12-х гадох беларусы гаспадарылі ў Маскве, да самое капітуляцыі ў лістападзе 1612-га году трымаліся за мурамі Крамля (ой, ня любяць расейцы ўспамінаць гэты эпізод нашых узаемадачыненьняў!). Найкаштоўнейшым плёнам гэтай надзвычай цяжкое вайны было вызваленьне ад маскоўскае акупацыі нашай пэрлы - Смаленска.

Аднак, у гэтай "смутнай" вайне сутыкнулася безьліч палітычных і ваенных сілаў, якія мелі супрацьлеглыя стратэгічныя інтарэсы. Швэды, нібыта прыйшоўшы на дапамогу расейцам, нечакана ўдарылі ім у сьпіну. Разбойная, некантралюемая стыхія - украінскія казакі - вызначалася зьверствамі й зьнішчэньнем як на тэрыторыі Масковіі, так і ў Беларусі. Кароль і вялікі князь Жыгімонт накіраваў польска-беларускае войска на Расею, каб урэшце рэалізаваць даўнюю ідэю падпарадкаваньня яе абшараў. Ягоны сын Уладыслаў быў нават у 1610-м годзе афіцыйна абвешчаны баярскаю радаю царом Расеі, пачала вызначацца формула дзяржаўнай уніі Рэчы Паспалітай і Расеі. Канцэпцыя правалілася з разгромам у 1612-м годзе польска-беларускага гарнізону ў Маскве сіламі паспалітага рушэньня Мініна і Пажарскага і з абраньнем у 1613-м годзе на расейскі трон першага Раманава. Карфаген ня быў разбураны. Гісторыкі ўмоўна зьвязваюць гэтую падзею з заканчэньнем дзесяцігадовай Смуты ў Расеі.

А. Салжаніцын іранічна пісаў, што "Мішу Раманава абралі, таму што яго ніхто не баяўся". У іх заўсёды так было на фоне рэгулярных смутаў: Сталіна абралі, таму што "недалёкі каўказец, якім можна маніпуляваць"; Хрушчова і Брэжнева, бо таксама добра пасавалі на ролю марыянэтак; позьніх генсекаў, бо маразматыкі й памруць хутка... А выходзіла ўсё страшней. Нядаўна на маскоўскі трон насельніцтва Расеі ( начале з акадэмічнай інтэлігенцыяй) пасадзіла новую, чыстакроўную кагэбісцкую дынастыю, аргумэнтуючы, што "Путин - строгий, оперработник, нам нужна крепкая рука..." Толькі прыход да ўлады савецкага КГБ вызначыў не заканчэньне, а якраз абвастрэньне агульнарасейскае смуты. Беларусы, што вяртаюцца з Расеі пасьля кароткага візыту альбо ўцякаюць адтуль пасьля многіх гадоў працы, падобныя на кантужаных ахвяраў катаклізму. Іхныя маналёгі вельмі падобныя, незалежна ад адукацыі, небагатыя па лексіцы, але вельмі выразныя па сутнасьці: "Расея - гэта жах! Вакол адныя бандыты, галеча, не плацяць заробкі, усе п'юць, жанчыны стаяць ля дарог і прадаюцца..." Тысячы нашых суайчыньнікаў за апошнія гады згінулі там (часам знаходзяць іхнія трупы, часам не). Гнілы вялізарны расейскі ідал усё яшчэ палохае чалавецтва сваімі ракетамі й укараненымі па ўсім сьвеце мафіёзнымі структурамі. Цывілізаваныя краіны ліхаманкава адгароджваюцца ад яго натаўскімі бастыёнамі, аддаюць маскоўскаму монстру даніну "на дэмакратызацыю" (а ён крадзе і становіцца ўсё больш нахабным), адкупляюцца жывым таварам - Беларусьсю і Чачэніяй. Падобна, што чатыры стагодзьдзі расейска-эўрапейскіх дачыненьняў нічаму не навучылі эўрапейскія эліты.

1613-ы год Беларусі запомніўся зь іншае нагоды. Упершыню ў гісторыі Рэчы Паспалітае адбыўся надзвычайны Сойм. Беларускае рыцарства пратэставала супраць палітыкі Жыгімонта ІІІ, які давёў Вялікае Княства да крызысу, пакінуў яго без дапамогі ў барацьбе з усходнімі варварамі. Але яшчэ ў 1618-м годзе каралевіч Уладыслаў безвынікова штурмаваў муры Масквы, імкнучыся вярнуць сябе крамлёўскі трон.

Галоўны гістарычны ўрок 1603-18-га гадоў сфармулявалі не спэцыялісты-гісторыкі, а цяперашнія ўцекачы-беларусы, якія паўтараюць рэфрэнам: "Трэба трымацца падалей ад жудаснае Расеі! Ніякіх фэдэрацыяў і саюзаў з гэтым кашмарам!"

***Валеры БУЙВАЛ***

# ЦІ РАЗВАЛІЦЦА РАСЕЯ?

Працэс распаду Расеі адбываецца як шлях пераменаў (як мэтад захаваньня імпэрыі), дзе рашаючае значэньне маюць зьнешнія чыньнікі.

Бязь зьнешніх узьдзеяньняў распад Расеі можа доўжыцца бясконца доўга - аж да поўнага вымiраньня насельніцтва.

Расея небясьпечная тым, што яна здольная самазадушваць унутраныя сілы распаду і - самазахоўвацца. Гэтаму найбольш спрыяюць два фактары: масавая і паталягічная імпэрская мэнтальнасьць і пэрманэнтна нізкі ўзровень жыцьця, які ўспрымаецца як норма.

Аналіз цяперашняй Расеі (гэтак жа, як і аналіз СССР) паказвае, што існуючая імпэрская сыстэма доўга існаваць ня можа. Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя працэсы рухаюцца ў бок калапсу і наступнага распаду.

Вузкагрупавы кагэбоўскі кантроль над эканомікаю, фінансамі, бізнэсам, прыбыткамі, кланавы допуск да прыбыткаў прывёў да канцэнтрацыі імпэрскіх фінансаў і бюджэту ў Маскве. Сродкі выцягваюцца з правінцыі ў сталіцу. Аднак грошы ад прыбыткаў вывозяцца на Захад (на 2002-ы год там знаходзілася больш за 300 мільярдаў даляраў грошай з Расеі).

Такім чынам клан КГБ, які кіруе ў Расеі і выкарыстоўвае постсавецкую імпэрыю, сам ня верыць у яе будучыню.

Паглыбленьне бездані паміж правінцыяй і Масквою, паміж беднасьцю і багацьцем павінна прывесьці да павелічэньня міжтэрытарыяльнага напружаньня, да ўзрастаньня фінансава-гаспадарчага і палітычнага ўплыву іншых краінаў на ўскраінах Расейскай імпэрыі. Чарговы калапс распаду, магчыма, выкліча новыя перамены ("перабудову") імпэрыі. Але нічога ўжо ня можа яе выратаваць у перспэктыве.

На працягу стагодзьдзяў жорсткае ўлады й вынішчэньня ў Расеі адбываўся адмоўны натуральны адбор. Усё высокае, разумнае, добрае, сьветлае, лепшае - вынішчалася, затоптвалася, выганялася. Заставалася "скопішча зла".

На сёньняшні дзень - гэта слабасільная краіна, валавы нацыянальны прадукт якое меншы, чым у маленькага Тайваня, а ўдзельная вага эканомікі - ня большая, чым у Бэльгіі (па тэрыторыі - нашая Гарадзенская вобласьць) і меншая, чым у 5-мільённай Швэйцарыі.

Гэтая краіна, якая ня можа ўтрымліваць непасільную для яе армію і велізныя тэрыторыі, але расьціць непамерныя амбіцыі й паталягічныя прэтэнзіі на вырашэньне лёсаў цэлых народаў.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

 

# ПАЭТ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ



**Мікола ЯНУШЭВІЧ нарадзіўся ў вёсцы Сурынка ў Беларусі 13-га ліпеня 1925-га году. У 18 гадоў ён размаўляў на чатырох мовах.**

**У Брытанію патрапіў як жаўнер польскага войска. Студыяваў земляробства ў Лювэнскім Унівэрсытэце ў Бэльгіі там і ажаніўся на мясцовай дзяўчыне. Нарадзілі дзетак - Міколу (1962) і Валентыну (1966). Па заканчэньні студыяў вярнуўся ў Брытанію.**

**Мікола напісаў шмат вершаў. Часта яго натхнялі да гэтага любоў да дзяцей, да прыроды, якія заўсёды займалі шмат месца ў ягоным сэрцы.**

**Мікола Янушэвіч памёр 29-га красавіка 1992-га году. Ягоны зборнічак "Poems", выдадзены ў 1997-м годзе Ўлаю й Роджэрам Гіпкін - адна са старонак маладасьледаванай англамоўнай паэзіі беларускіх выгнанцаў.**

### THE VEIL

The veil is used to hide all sorts of things
From human eye that curious always is.
It always inquiring mystery brings?
Which not always repudiated is.

Just think of slender delicate veil,
That is moving air so gently sways,
Giving lusty inner trills,
As some parts of art, on which it does prevail,
Are enhanced, but no concealed.

Thus many, many years ago,
Our ladies men's attraction did cunningly conceive,
To make them forward go,
They pretended their beauty (or else)
From them to thus conceal.

There are, however, veils
In many other, oft' morbid forms,
That on our nature much prevail,
And of the hidden thing do us morbidly inform.

Such thing that cover something like a cloud,
Something lying cold and stiff.
The veil is then called a "shroud",
And it give us the solemn grief.

Alas 'though, let us not forget, that many a jester's laugh
Is his cunning veil
Of things which we would all regret,
If we could see them well enough,
If the jester did not our view of them curtail.

For he tries and tries again
His somber message to convey,
But the veil of humour covers
All that he portrays,
And his efforts are in vain.

There is, however, one good thing,
Which the jester from this derives:
When on precipice's brink,
The just on danger thrives,
And thus the jester with his jest survives.

Yet, there is another veil,
Which defies all descriptions,
Of which many people themselves avail,
And which deserves our vehement proscription.

We see this veil often as a smile,
That bids approach and trust.
It is there to the recipient sordidly beguile,
And to deliver the final crush.

This veil is often in the form of bread,
Hiding the object of real intention,
Which contains a deadly spread,
Which the giver does not mention.

My veils preferred are those, which do reveal
The objects which they to cover are supposed,
Giving them an enhanced appeal,
And thus many thoughts they do propose.

The gentle mist of our beloved Turner,
That veils so many shapes of promise,
Which leads us like humble learners,
And gives us an inner solace.

The gentle mist that spreads at night,
When traveling though fields and forests.
It all gives us a sense of peace and great delight.
These are the veils that are true and honest.

*1986*

### THE EPITAPH

After crossing many distant lands
And stormy sees for good account,
I arrived at a small, but beautiful island,
The story of which I am about to recount.

When walking to a friend I made,
With ardent friendly look,
A tatty magazine he gave
And called it a "book".

"This is", I thought, "the very thing that is called inflation
Of terms and of language hard gained,
Which may lead to conflagration,
And our values to a lethal strain".

On viewing this sad omen,
I saw the monster, to which later I would fall prey.
I saw the thinking torment,
But the viewing area was gray.

So I went together with my adopted nation.
The very light of day was given to distortion,
For the truth was in the throes of inflation,
Everything lost its true proportion.

So this will be my fitting epitaph:
"To keep a civil pact,
'Though shown the future's graph,
For the ease of life, he failed to act."

*1987*

# ЯШЧЭ ТРОХІ АБ ЯНАВЕ

У маім кароткім артыкуле аб Моталі ("Беларус" №476) было ўспамнена Янава, цяпер Іванава. Гэты гарадок і некаторыя вёскі заслугоўваюць на асобнае апісаньне.

Янава ляжыць у паўднёвай частцы Палесься, каля чыгункі паміж Пінскам і Драгічынам, акружаны лясамі й палямі, зьяўляецца раённым цэнтрам. У савецкія часы ў раёне было 22 калгасы і адзін саўгас. Семнаццаць калгасаў мелі дзіўныя камуністычныя назовы, якія ня мелі нічога супольнага зь вёскамі, Палесьсем, беларусамі ці Беларусяй. Дзеля прыкладу прывяду некалькі назоваў тых калгасаў: "Бальшавік", "Зара камунізма", "40 гадоў Кастрычніка", "Шлях Леніна", "Шлях да камунізма", "22-гі Партзьезд" і т. п. Два калгасы, імя М. Горкага і "Расія", мелі назовы павязаныя з Расеяй. Толькі тры калгасы мелі назовы, якія можна назваць мясцовымі ці беларускімі. Гэта "Беларусь", "Праца", "Маладова".

Янава, старое мястэчка, яму найменш 600 гадоў. Да Другой Сусьветнай вайны жыло там шмат гэбраяў. Паміж беларусамі й гэбраямі не было моўных, нацыянальных ці рэлігійных канфліктаў. Гэбраі гутарылі між сабою на сваім ідыш, і гэта нікому не перашкаджала, не дражніла. Гэбраі мелі свае крамы, але займаліся таксама кравецтвам, сталярствам ды іншымі рамёствамі.

У Янаве былі частыя і вялікія кірмашы, на якія зьяжджаліся вясковыя людзі са сваімі прадуктамі й вырабамі, каб іх прадаць і штосьці купіць.

Як ведама, пасьля Царкоўнай Уніі ў Берасьце ў 1596-м годзе ў Беларусі й Украіне пачаліся канфлікты паміж праваслаўнымі, грэка-каталікамі й рыма-каталікамі. На вялікі жаль, канфлікты гэтыя канчаліся часта трагедыямі, якія не мінулі й Янава.

Так, у 1657-м годзе казакі замучылі на сьмерць у мясцовай бойні езуіцкага сьвятара Андрэя Баболю. У 1854-м годзе ён быў узьведзены ў пачот блажэнных, а ў 1938-м годзе ў пачот сьвятых. Каталікі глыбока шануюць Сьв. Андрэя Баболю, і паломнікі ёдуць да Янава, месца яго мучаніцкай сьмерці.

У Янаўскім раёне нарадзіўся ведамы мастак Напалеон Орда, які зрабіў малюнкі шмат якіх помнікаў архітэктуры ў Беларусі, Летуве і Ўкраіне. Многія з тых палацаў і касьцёлаў ужо даўно не існуюць, і толькі дзякуючы Н. Орду мы ведаем, як яны выглядалі ў 19-м стагодзьдзі. Бальшыня ягоных малюнкаў захоўваецца ў Польшчы.

Варта тут таксама ўспомніць так называных "янаўскіх лабараў". Гэты назоў адносіцца да мясцовых людзей, якія займаліся зьбіраньнем грошай на будаўніцтва цэркваў. Слова "лабор" паходзіць, праўдападобна, ад лацінскага "labor", што значыць праца.

У Янаўскім раёне ёсьць шмат цікавых і гістарычных вёсак. Успомнім тут некаторыя зь іх.

У 15 км на паўночны ўсход ад Янава ляжыць вёска Дастоева. У 1508-м годзе гэтая вёска была падараваная Вялікім Князем Літоўскім Данілу Рцішчаву за ягоныя подзьвігі. Дзеці Данілы пачалі называць сябе Дастоеўскімі. Менавіта з гэтага шляхецкага роду паходзіў славуты расейскі пісьменьнік Хведар Дастоеўскі, які добра ведаў пра сваё "літоўскае" (беларускае) паходжаньне. Між іншым род Дастоеўскіх не перайшоў ні ў рыма-каталіцтва, ні ў грэка-каталіцтва. Можна было-б спадзявацца, што ў савецкія часы мясцовыя ўлады ў Янаве ці сельсавет у Дастоеве назавуць мясцовы калгас імём свайго славутага земляка. Ды дзе там! Калгас назвалі "Чырвоная зорка".

У тым-жа Янаўскім раёне, у блізкай вёсцы Ляскавічы калгас назвалі імём М. Горкага. Ня ёсьць сакрэтам, што Максім Горкі ня меў нічога супольнага з Ляскавічамі. Дзе тут лёгіка?

На поўдзень ад Янава ёсьць вёска Рудкаўка, у якой жывуць людзі расейскага паходжаньня. Яны тут пасяліліся, ці іх перасялілі з Расеі некалькі стагодзьдзяў таму назад. З цягам часу яны, будучы праваслаўнымі, зьмяшаліся зь мясцовым беларускім насельніцтвам, страцілі сваю мову. Ад іхняй "рускасьці" засталіся цяпер толькі расейскія прозьвішчы.

Таксама на поўдзень ад Янава ёсьць вёска Пешкава, каля якой некалі пасяліліся мазуры з Польшчы. Жылі яны ў спакоі зь мясцовым насельніцтвам. Адрозьніваліся ад беларусаў яны толькі сваёю каталіцкаю рэлігіяй і імёнамі, як Зыгмунд, Зьбігнеў, Зьдзіслаў і т. п. Пасьля вайны гэтыя мазуры выехалі ў Польшчу, пабаяліся жыць у "сталінскім раі".

Па праваму баку ракі Піны, паміж вёскамі Патаповічы й Семяховічы, раскінуліся вялікія лясы, якія да вайны належалі графу Пуслоўскаму. Сядзіба ягоных уладаньняў была ў Завішчы, маляўніча разьмешчаным сярод лясоў каля рыбнага і ракавага возера.На Завішчы быў прыгожы палац, мэблю зь якога вывезьлі ў Маскву ў Дзяржаўны Гістарычны музэй. Падчас вайны палац той быў зьнішчаны.

Каля балотаў непадалёку завішчанскага маёнтка можна было спаткаць чарапахаў. У сьвеце, як ведама, ёсьць стэпавыя і марскія чарапахі. Відаць, на Палесьсі яны эвалюцыйна перамяніліся з марскіх у балотныя, бо там калісь таксама было мора. І называлі яго "Герадотавым морам", ад грэцкага гісторыка Герадота (нар. у 484-м годзе да н. э.)

У Янаўскім раёне часам знаходзіцца і бурштын.

***Міхась ШВЭДЗЮК,***
***Ангельшчына***

*У артыкуле "Моталь, Янава...", зьмешчаным у № 476 "Беларуса", узгадваўся луцкі япіскап. Ягонае прозьвішча павінна быць Ласовіч, а не Пасовіч, як было памылкова надрукавана.*

# НАШАЯ МОВА Ў КЛІФТАНЕ

Сталы чытач і прыхільнік газэты "Беларус", сябра Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, д-р Юрка Кіпель даслаў у рэдакцыю цікавую вестку. Адная з большых газэтаў штату Нью Джэрзы, *The Record*, наклад якое даходзіць да 200 тысячаў асобнікаў, у нумары за 3-га студзеня сёлета зрабіла агляд моваў, якімі карыстаюцца жыхары гораду Кліфтану, штату Нью Джэрзы. Гэтак, у школьнай акрузе гэтага гораду налічваецца 5886 вучняў. На пытаньне журналістаў "Якою моваю, апрача ангельскае, Вы карыстаецеся ўхаце?" - былі дадзеныя такія адказы: гішпанскаю - 3744, арабскаю - 698, італьянскаю - 65, карэйскаю - 38, грэцкаю - 36, ... беларускаю - 11. Беларуская мова аказалася на параўнальна высокім 22-м месцы. А ўсяго ў горадзе гавораць на 65 мовах народаў сьвету. Хоць, безумоўна, беларусаў у горадзе жыве болей, але зусім нядрэнна, што ў звычайным амэрыканскім індустрыяльным горадзе ў стольких, адносна маладых, сем'яў дзецям ужо прышчэпленыя пачаткі беларускае нацыянальнае сьвядамасьці.

# Андрэй МАЦУКЕВІЧ (5.10.1914 - 3.01.03)



Адыйшоў у вечнасьць наш добры знаёмы, даўгагадовы сябар Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, вернік Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, стрыечны брат Сьв. Памяці Мітрапаліта Мікалая.

Нарадзіўся Андрэй Мацукевіч у мястэчку Моталь ля Янава на Берасьцейшчыне.

У ЗША доўгія гады жыў у горадзе Гіксвіль, а апошнія гады ў Амітывіль на Лёнг Айлэндзе.

Па сабе ў смутку пакінуў сына Стэфана з жонкаю і ўнучкаю Рэйчэл.

Няхай будзе яму пухам амэрыканская зямля.

*М. і К. ВЕРАБЕЙ*

**Сябры й знаёмыя выказваюць спачуваньні Анатолю ТАЛЬЯНСКАМУ і сям'і з нагоды сьмерці ягонай маці.**

**Выказваем спачуваньні сям'і Кім і Колі РОМАНО з прычыны сьмерці бацькоў Кім, Марыі й Віктара Кастэляно, а таксама яе дзядзькі Біла Кастэляно.**

## ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Шукаю зьвесткі пра лёс беларускіх дзеячоў: **ВАСІЛЯ ВІРА**, які ў пачатку 90-х жыў у Чыкага, быў сябрам мясцовай уніяцкай парафіі, пісаў допісы ў "Беларус", і **КАСТУСЯ СТАНЮША**, які ў пачатку 50-х гадоў жыў у Таронта.

Просьба інфармацыю дасылаць у рэдакцыю "Беларуса".

*Сяргей Ёрш*

* * *

Шукаю фундатараў і мэнаджэраў для выданьня кнігі ўласных вершаў.

*Уладзіслаў Жыгалка*

*Тэлефон у Менску: (8217) 221-2181*

* * *

Малады беларус, высокі, спартыўны, шукае сабе жонку, можна іншаземку, добра, калі высокую бляндынку (ня менш за 183 см!), зь веданьнем замежных моваў.

Пісаць на адрас: *Slava, п/с 461, 220050 г. Менск, BELARUS*

# НАШАЯ АХВЯРНАСЬЦЬ

## СТАТЫСТЫКА РАССЫЛКІ КАЛЯДНЫХ ПАШТОВАК

Напярэдадні Калядных сьвятаў большасьць падпісчыкаў "Беларуса" атрымала набор калядных паштовак. Ведаючы, як цяжка знайсьці беларускія сьвяточныя карткі ня толькі ў замежжы, але і ў Беларусі, рэдакцыя спынілася менавіта на такім праекце. Разам з тымі карткамі быў укладзены ліст з просьбаю ахвяраваць $10 ці, калі хто можа, трошкі больш на падтрымку выдавецкага фонду газэты.

Час падвесьці вынікі. А яны выглядаюць наступным чынам. Адгукнуліся на просьбу рэдакцыі 51% асобаў, якія атрымалі наборы паштовак.

Зь ліку тых, хто прыслаў у рэдакцыю ахвяраваньне, 16% ахвяравалі $50 ці больш. Падтрымку большую за $20, але менш за $50 вырашылі даць 13% атрымаўшых паштоўкі. 30% ахвярадаўцаў даслалі ўдвая больш прапанаванай сумы. Па $15 даслалі яшчэ 11% нашых прыхільнікаў. 30% даслаўшых уплаты ахвяравалі прапанаваную суму ў $10. Гэта тыя нашыя прыхільнікі, на падтрымку якіх мы можам заўжды разьлічваць, яны стараюцца падтрымліваць нашую працу як толькі могуць.

Вось такія вынікі нашага сьвяточнага праекту. Магчыма, некаму яны здадуцца ня вельмі абнадзейваючымі, але досьвед грамадзкае працы падказвае, што гэты вынік нашмат лепшы за іншыя нашыя ініцыятывы. Хочацца выказаць шчырую падзяку ўсім, хто адгукнуўся на нашую просьбу. Дзякуючы Вашай ахвярнасьці выдавецкі фонд газэты павялічыўся больш як на $1200. Таксама спадзяёмся, што тыя асобы, якія яшчэ не пасьпелі адказаць, улічаць вынікі гэтага праекту ў будучым, падчас абнаўленьня сваіх гадавых падпісак.

*Марат Клакоцкі*








**ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!**

Газэта "Беларус" на працягу больш паўстагодзьдзя была люстэркам, якое адлюстроўвала беларускае грамадзкае жыцьцё па-за межамі Бацькаўшчыны. Як удавалася ў тыя, бяднейшыя на сродкі камунікацыі часы, гэтага дасягнуць? А магчымым гэта было толькі таму, што чытачы былі больш актыўныя, часьцей дасылалі ў рэдакцыю лісты са сваімі артыкуламі, зацемкамі, развагамі й парадамі. Газэта была трыбунаю, зь якое абмяркоўваліся амаль усе больш-менш значныя падзеі мінулага 50-годзьдзя.

Сёньня, калі ў Беларусі захапіў уладу прамаскоўскі рэжым і душыць усё беларускае, такі сродак нам патрэбны няменш, чым у часы існаваньня СССР. Бо нішто ня зможа лепш аб'яднаць нас, расьцярушаных па ўсім сьвеце, і каардынаваць нашыя дзеяньні, як свая, агульная для ўсіх нас, газэта.

Цяпер "Беларус" выдаецца не прафэсыяналамі-журналістамі, а толькі дзякуючы ахвярнасьці аматараў, якія робяць сваю працу выключна на грамадзкіх пачатках, і кіруе імі толькі жаданьне прынесьці як мага больш карысьць сваёй Радзіме-Беларусі, хай нават жывучы далёка ад яе.

Каб газэта была цікавейшаю і ўздымала самыя актуальныя пытаньні нашага жыцьця, нам патрэбная дапамога ўсіх Вас, шаноўныя чытачы. Пішыце нам пра падзеі, якія адбываюцца ў тых мясьцінах, дзе Вы жывяце, і якія, на Вашую думку, вартыя таго, каб пра іх даведаліся ўсе нашыя суайчыньнікі. Калі Вас хвалююць нейкія праблемы ці пытаньні, датычныя Беларусі ці беларусаў, - падзяліцеся імі на старонках газэты. Чым больш мы будзем ведаць адзін пра аднаго, тым большаю будзе нашая сіла і ўплыў, тым хучэй збудуцца нашыя мары пра вольную і незалежную Беларусь.

Будзем вельмі ўдзячныя аўтарам з краінаў Эўропы, з розных гарадоў і мясцовасьцяў Аўстраліі, Канады й ЗША. З задавальненьнем надрукуем артыкулы аўтараў зь Беларусі, калі яны будуць закранаць надзённыя і важныя праблемы беларускага жыцьця агульныя для нас усіх.

Бачыны "Беларуса" заўсёды былі месцам, дзе спрабавалі сілы маладыя літаратары, і дзе друкавалі свае творы ўжо прызнаныя паэты й пісьменьнікі. Не хацелася-б перарываць гэтую добрую традыцыю.



**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| М. Занковіч | 115 | Ю. Анрусышын | 30 |
| Дробныя ахвяраваньні і продаж паштовак | 119 | В. Буртан | 30 |
| Л. Стагановіч | 110 | М. Вашкевіч | 30 |
| Прыбытак лятарэі | 108 | Г. Даўсан | 30 |
| А. Моніd | 100 | Я. Кабяка | 30 |
| Я. Сажыч | 100 | В. Кажан | 30 |
| А. Курушка | 70 | М. Каленік | 30 |
| Б. Рагуля | 63 | У. Адашкевіч | 20 |
| Я. Азарка | 50 | Б. Даніловіч | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 50 | А. Радзюк | 20 |
| У. Акавіты *аўстр. $* | 50 | Ю. Рэпецкі | 20 |
| А. Садоўскі *аўстр. $* | 50 | Л. Маркоўскі | 10 |
| Я. Кажан | 40 | Я. Навагрaдзкі | 10 |
| Э. Норык | 40 | С. Трыгубовіч | 10 |
| В. Цярпіцкі | 40 | Г. Харавец | 10 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

***Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е Падпіска $30 на год. Чэкі выпісвайце на BIELARUS***

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

***Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc. Subscription $30 yearly Make checks payable to BIELARUS***

**Рэдагуе калегія.**

*Адказны рэдактар* ***Марат Клакоцкі***

*Падпіска* ***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***



**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

**E-mail:**
hazetabielarus@att.net

**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***